№ 11-12 [14-15]

ЛІСТАПАД - СЬНЕЖАНЬ 1948 г.

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

З ВЕДАЙ, ВЕРАЙ, НАДЗЕЙ І ЛЮ-БОЎЮ ДА ЛЕПШАЕ БУДУЧЫНІ.

Часапіс Беларускае рэлігійнае думкі.

«SUR LA VOIE DIVINE».
Mensuel religieux biélorussien.

Цана нумару 30 фр.

Адрыс радакцыі:
Adresse : Redaction, 51, rue des S-ts Pères, Paris (6).
Chèque Postal : Paris c. 628744.

Падпісная цана на год 300 фр.

# ВЯЛІКАЕ СЬВЯТА



Калі нарадзіўся Хрыстос, анелы пяялі ў нябесах чудовую песьню: «Слава на вышынях Богу і на зямлі мір людзям добрае волі» (Лук. 2, 13).

Прыглянуўшыся аднак да падзеяў, укія адбываліся зараз-жа пасьля нараджэньня Хрыста, убачым, што да абвешчанага анёламі міру шлях ня зусім блізкі і вядзе праз вялікія несупакоі. Мір гэты — мір Божы, ён не накідаецца прымусам, але мусіць быць перш успрыняты сэрцам, так як прынялі яго бэтлеемскія пастушкі, якія па слову анёла прыйшлі да жолабу, дзе ляжаў нованароджаны Хрыстос, ушанавалі Яго і адыйшлі з радасьцю і пацехаю; або так як успрынялі Яго ўсходнія мудрацы-магі, якія ўбачыўшы пуцяводную зорку, прыйшлі да адвечнага Дзіцятка і ўзрадаваліся вялікай радасьцю, знайшоўшы Яго, пакланіліся Яму і, шчодра абдарыўшы, вярнуліся пацешаныя на духу ў свае краіны. — Мала прыйшло ўшанаваць Нованароджанага, хоць пуцяводную зорку бачылі мільёны і анёлаў бачыў увесь Бэтлеем.

Праўда бальшыня тагачасных людзей не разумела гэтых дзіўных зьяваў, але спаміж тых, якія разумелі і дакладна ведалі, знайшліся такія, што не ўспрынялі абвешчанага міру. Знайшліся і такія, што абвесьцілі Яму вайну на сьмерць. Палестынскі цар Ірад, як толькі даведаўся аб нованароджаным Хрысту, адразу пляную крывавы злочын, ужывае ўсіх подступаў і хітрыкаў, каб ажыцьцявіць гэты плян. Ён прыкідаецца пабожным, тайком прыклікае магаў, каб даведацца мейсца знаходжаньня Хрыста, быццам на тое, «каб пайсьці і пакланіцца Яму» (Лук. 2, 8), але ў запраўднасьці ён ужо вострыць меч на Хрыста.

Але Бог так-жа не бязьдзейнічае, Ён хароніць свайго Адзінароднага найпрасьцейшым спосабам — уцёкамі ў бясьпечнае мейсца. Хрыстос ідзе на выгнаньне і з Ім ідуць сланяцца на чужыне Яго-ныя земскія бацькі.

Крывавы Ірад, убачыўшы, як раскідаліся яго-ныя хітрыя пляны, не супакойваецца, але пачынае лютаваць. Ён пасылае сваіх галаварэзаў вынішчыць усіх дзяцей да 2-х год у Бэтлееме і ваколіцы. І палілася нявінная кроў, пацяклі горкія сьлёзы, збылося прароцтва Ерэміі: «Голас у Ра-

# Усім чытачом радакцыя жадае Вясёлых Сьвят і шчасьлівага Новага Году

ме чутны і плач на ўзрыд і лямант вялікі: Рахіля плача па дзецях сваіх і ня хоча ўцешыцца, бо іх няма» (Ерэм. 31,15). Але ад гэтага на сэрцы ў Ірада няма ані пацехі, ані супакою; ён лютуе далей, вынішчае вялікі лік сваіх падданых, нават сваіх сямейнікаў: жонку і некалькі сыноў. Не дарма-ж яго назвалі Ірад крывавы.

Так пастушкі і магі, як жыдоўскія старшыні і Ірад пазналі, што Новананароджаны ёсьць Хрыстос, што ў Ім ёсьць адвечная Праўда; першыя Яго прыймаюць, таму што пазналі Праўду, другія Яго адкідаюць якраз таму, што ня хочуць Праўды.

Ад гэтага часу гісторыя безнастанна паўтараецца. Сьвет увесь час шукае Хрыста, шукае Праўды, адны на тое, каб прыняць і ўшанаваць, другія на тое, каб зьнішчыць, каб паборваць; адны йдуць сьледам мудрацоў-магаў, другія — сьледам Ірада. Першыя знайшоўшы Хрыста, адчуваюць у сваім сэрцы той мір абвешчаны анёламі і сугучна пяюць іхнюю песьню ў чэсьць Адвечнага Дзіцяці, другія выціскаюць сьлёзы з людзкіх вачэй і разьліваюць мора крыві вакол сябе і гоняць мільёны на выгнаньне.

Хрыстос радзіўся як немачнае дзіця ў апушчанай убогай шопе-хляве. — Ірад быў царом з магутнасьцю і войскам. Якая няроўнасьць! Аднак Ірад не асягае перамогі, два гады пасьля нараджэньня Хрыста ён умірае. Сьледам за Ірадам пайшоў не адзін магутны гэтага сьвету, але Хрыстос заўсёды выходзіць пераможцам.

Хрыстос разам з сваімі зямнымі бацькамі хутка вярнуўся з выгнаньня; у рымскім Колёззэю дзе загінулі тысячы хрыстовых вернікаў запанаваў Крыж Хрыста, на мейсцы паганскіх бажніцаў амаль па ўсім сьвеце ўзносяцца Хрыстовы сьвятыні. — Але ў душы людзей, у душы кожнага з нас ідзе несканчатная барацьба. Ня сьпіць вораг людзкога роду — з усіх бакоў падходзіць ён да кожнага чалавека і зманьвае на бездарожжа.

Кожнаму чалавеку Богам даная свабодная воля і ад яе залежыць, які мы выбярэм шлях, як выйдзем з нутранага змаганьня. Бог бесканечна любіць людзей, Ён нават свайго Адзінароднага Сына не пашкадаваў для збаўленьня людзкога роду, аднак дзеля гэтага-ж збаўленьня Бог ня хоча сілаваць свабоднае людзкое волі. Так было калісь, так ёсьць цяпер і так будзе заўсёды.

Дзякуючы гэтай свабоднай волі і разьдзяліўся сьвет і ў душы кожнага чалавека адбываецца змаганьне, якое не абмінае найбольшых сьвятых. Ап. Паўло так жаліцца на сябе: «Бо добрага, што хачу, не раблю, а благое, якога не хачу, раблю. Калі-ж раблю тое, чаго не хачу, ужо ня я раблю гэта але грэх, што жыве ўва мне». (Рам. 19-20). Тое-ж і кожны можа паўтарыць за апосталам, бо змысловая натура чалавека цягне ня раз супраць найлепшага перакананьня.

Колькі раз нам-бы хацелася, каб ня йсьці сьледам за пуцяводнаю зоркаю, але наадварот, каб пуцяводная зорка йшла туды, куды цягнуць ніжкія гоны змысловае натуры? Колькі раз людзкое сэрца замест ісьці за Хрыстом, жадала-б, каб Хрыстос ішоў сьледам за «мадэрнымі вымогамі цывілізацыі»? Сучасны сьвет бачыць лепш і ясьней, чым калі, што бяз Хрыста блукае ў страшэнных нетрах і шмат дзе чутны моцныя галасы і жаданьні выйсьці з гэтых нетраў да Хрыста, пайсьці за пуцяводная зоркаю ўва ўсім сваім дзеяньні, але не адзін яшчэ мроіць аб тым, каб і Хрыста зацягнуць ў тым нетры.

Голас змысловае натуры чалавека вельмі моцны, таму і змаганьне з ім ня лёгкае, але калі толькі знойдзецца хоць дрыбіна добрае волі, — дабро перамагае. Шмат моцы ў гэтым змаганьні дадаюць чалавеку вонкавыя дзейнікі, як абрады, сьвяточныя цэрэмоніі й інш. З гэтаю мэтаю і ўстанаўляюцца сьвяты, быццам артэзыйскія калодзязі для падарожных у пустыні.

У эміграцыйных умовах жыцьця, асабліва важна ўсьведаміць сэнс сьвята Нараджэньня Хрыста, каб годна яго адсьвяткаваць і знайсьці ў ім жарало падтрыманьня і пацехі. Для тых, хто сьвяткаваньне пераносіць з сьвятыні ў рэстаран ці падобную ўстанову, хто з душы пераносіць яе толькі ў жывот, гэткае сьвяткаваньне раўназначна з пасыўным супрацоўніцтвам з Ірадам, як калісь супрацоўнічалі з ім жыдоўскія старшыні. Сытны стол заўсёды суправаджаў вялішкыя і больш урачыстыя мамэнты нашага жыцьця, але ён ня ёсьць адзінаю азнакаю важнага мамэнту жыцьця, тымбольш ня можа быць адзінаю азнакаю сьвята Нараджэньня Хрыста.

Эміграцыйны шлях толькі тады мае сэнс, калі ён пойдзе сьледам за Хрыстом. Гэта значыць, калі мы будзем уважаць нашае эміграцыйнае палажэньня ня шуканьнем прыемнасьцяў ды роскашаў, але пратэстам супраць гвалту й няпраўды, якія дзеюцца ў нашай бацькаўшчыне і змаганьнем супраць гэтага гвалту й няпраўды. Толькі гэтак мы выканаем свой абявязак супраць сваіх суродзічаў там на бацькаўшчыне, толькі ў гэткім настрої мы выканаем Божае пас-

ланство, таму у гэткім настроі пойдзем да жалабка і ўшануем Адвечнае Дзіцятка, як калісь бэтлеемскія пастушкі і ўсходнія мудрацы-магі і будзем прасіць Яго, каб даў нам моц ня толькі цярпець і змагацца за Ягоную праўду, але каб не пазбавіў нас шчасьця аглядаць перамогу Хрыста ў нашай Бацькаўшчыне. Як Ён калісь вярнуўся з ягіпецкага выгнаньня ў родныя ваколіцы, каб і нас багаславіў вярнуцца ў вольную Бацькаўшчыну.

**а. Лазар.**

# Калядныя успаміны

На бацькаўшчыне так хораша сьвяткаваліся калісь Каляды, што тут на эміграцыі ў часе калядных сьвятаў нельга вызбыцца думкі, каб хоць на хвіліну, хоць думкаю перанесьціся ў родныя ваколіцы і хоць душэўна пережыць тыя ўрачыстыя калядныя абрады, якія калісьці магчыма часта замала цаніліся.

Калядны час на ўсёй Беларусі трывае ад Раства да Вадохрышча і азначаецца трымя Куцямі. Аднак у сьцiслым значэньні Каляды гэта сьвята Нараджэньня Хрыста, хоць самое слова каляды сягае яшчэ дахрысьціянскіх часоў, але гэта да маіх успамінаў не адносіцца, бо хачу толькі ўспомніць, як сьвяткаваліся самыя Каляды ў Стаўпеччыне.

Аб Калядах ужо пачынаюць гаварыць, як толькі распачнецца Піліпаўка (14/27-XI). Хоць пасьля першае сусьветнае вайны Піліпаў пост не заўсёды датрымоўвалі нават на вёсках, дык усё-ж патанцулькі і вясельлі звычайна спыняліся ўсюды аж да самых Каляд. Рыма-каталікі, якія Піліпаўкі ня маюць амаль усюды прытрымоўваліся так-жа гэтага звычаю. Для моладзі, ведама, такая забарона найбольш адчувальная.

За тыдняў два перад Калядамі па вёсках пачынаюць таўчы куцю. Ад гэтага стуку вечарамі вёскі аж гудуць, асабліва дзе трох ці чатырох возьмуцца адразу за таўкачы, ды абступяць ступу «каб аж лоб змок».

Да першае сусьветнае вайны ў Стаўпеччыне ялінкі і знаць ня зналі і ведаць ня ведалі, але пасьля пачалі яе заводзіць амаль усюды, аднак нейкага асобнага абраду для ялінкі ня вытварылі. Асабліва моладзь упадабала сабе гэтае вечназялёнае дрэўка і пераняла на сябе заданьне дастаць ялінку і ўпрыгожыць яе.

Вечар перад Раством, гэта найбольш урачысты вечар; тады адбываецца першая Куця-Сьвятая Вячэра. Да гэтага часу кожная хата чысьціцца і прыбіраецца. Ад палудня, а ў некаторых выпадках ад раньня ў печы варацца розныя стравы для Вячэры. У найбольшым гаршку варыцця куця і задоўга перад вячэрай ставіцца ў сена на покуці. Стол засьцілаецца сенам і накрываецца белым настольнікам. З гаспадарскімі працамі стараюцца ў гэты вечар падхадзіцца хутчэй, як звычайна, каб магчы зараз пасьля сутанку сесьці за стол.

Звычайна ўсюды, перад тым, як сесьці за стол, гаспадар з сьвечкаю ў руках адмаўляў хоць кароткую малітву разам з усімі сямейнікамі.

Рыма-каталікі ўсюды распачыналі Сьвятую Вячэру ад аплатка, складаючы сабе пры гэтым узаемныя пажаданьні.

Усе стравы на першай Куці мусяць быць посныя, але затое іх лік неабмежаваны, часам толькі некаторыя старэйшыя гаспадыні стараюцца, каб падобна як на дзяды лік страваў быў або 6, або 12. Куцю ў некаторых вёсках ядуць на пачатку, але ў бальшыні выпадкаў уканцы Вячэры. Перш чым зачэрпаць куцю, гаспадар не забываецца пастукаць у вакно і заклікаць: «Мароз, мароз, ідзі к нам куцю есьці!»

Кончыўшы Сьвятую Вячэру, у тых вёсках дзе ёсьць цэрквы, ідуць на багаслужэньне, ці на пастэрку.

На першы дзень Каляд, як толькі пачне сутанець калядоўшчыкі з вялікаю зьвяздою пачынаюць абходзіць вёску, не абмінаючы ніводнае хаты. Простыя словы калядных песень і іхнія мэлёдыі, якія ніколі не старэюцца, маюць якісьці нявымоўны чар у той вечар. Калі дзе моладзь падахвоціцца, дык усьлед за калядоўшчыкамі водзяць казу, або мядзьведзя з цыганом. Але найахвотней у кожнай хаце сустракаюць бэтлейку. Амаль у кожнай весцы ёсьць нейкія свае калядныя звычаі. На жаль пасьля першае сусьветнае вайны шмат якія звычаі паважна занядбаліся, а ў сучасных умовах заніклі, аднак яны ня зьніклі зусім. Калі іх сёньня нельга выконваць дык аб іх успамінаюць аб іх гавораць і прагна чакаюць таго мамэнту, каб магчы зноў калядоўшчыкм гасьцінна адчыніць дзьверы.

Ад Раства да Новага Году вечары ўважаюцца сьвятымі, працаваць тады не дазволена. Затое языком і нагам даецца поўная воля — казкі, прыказкі, круцігалоўкі, сьпевы і скокі займаюць тады ўвесь вячэрні час.

Новы Год, або Шчадрэц спатыкаецца другою Куцёю, т. зв. сытаю, бо яна ў адмену ад першае мае скаромныя стравы. Кожны гаспадар стараецца, каб гэтая Куця была якнайбольш сытная, «каб увесь год быў такі сытны». Самая куця варыцца з сьвіным вухам. Калі ў хаце ёсьць дзяўчына, дык яна стараецца выкрасьці гэтае вуха з гаршка так, каб ніхто ня бачыў і падлажыць яго сабе

пад падушку, тады пэўна прысьніць свайго суджанага. Агулам моладзь, асабліва дзяўчаты, блізу увесь гэты вечар прысьвячаюць варажбе. У Стаўпеччыне нараховаецца каля трыццаці розных спосабаў варажбы ад найпрасьцейшых нявінных, да самых складаных магічных. Яны абымаюць плот і рахуюць калы; выбегшы з першаю аладкаю слухаюць у якім мейсцы сабака забрэша, або падходзяць да вакна суседа і слухаюць, што той скажа; кідаюць чаравікі праз страху і глядзяць у які бок насок ляжа; цягнуць карткі з імёнамі; гадуюць пеўня ці сабаку; паставіўшы стоцьма рубель, глядзяць у які бок упадзе — і чаго толькі ня выдумовая дзявочая цікавасьць, каб угадаць сваю найбліжэйшую будучыню?

Грушы й яблыны ў гэты вечар абвязваюцца аўсяным перавяслам, каб так сільна радзілі іхнія галінкі, як родіць авёс.

Спажываючы самую Вячэру выцягаюць з-пад настольніка па сяніне і мераюць чыя даўжэйшая, хто даўжэй жыць будзе.

На першы дзень Новага Году, падобна як і на Раство, ходзяць па хатах з песьнямі шчадраўнікі. Аднак гэты звычай мала дзе практыкаваўся. Шчадроўскія песьні розьняцца ад калядных тым, што яны карацейшыя — гэта перадусім пажаданьні.

Ня менш цікаваю ад папярэдніх куцяў ёсьць трэцяя Куця перад Вадохрышчам. Гэтая Куця посная, як і калядная. Перш чым садзіцца спажываць гэтую Куцю, гаспадар бярэ міску, кладзе ў яе троха куці, троха пасолі або бобу, утыкае ў куцю крыжык, накрывае чыстым ручніком, бярэ сьвечку і кавалак крэйды і абходзіць усю сваю гаспадарку, зачынаючы ад гумна, і значыць усе дзьверы крыжыкамі. Калі ўканцы ўвайходзіць у хату, усе хатнія зьбіраюцца ля стала з падпразанымі хвартухамі. Гаспадар кідае тры жмені пасолі з міскі, а хатнія ловяць яе ў растауленыя хвартухі — хто больш зловіць, той будзе шчасьлівейшы. Пасьля гэтага гаспадар малюе на левым вушаку «доўгі лён» і значыць крыжыкамі дзьверы і вокны хаты. Толькі пасьля гэтага садзяцца спажываць Куцю.

На самае Вадохрышча царква заўсёды перапоўнена, бо пасьля Службы Божае адбываецца ўрачыстае асьвячаньне вады. Асабліва дзе ёсьць недалёка ад царквы рэчка ці возера, там гэтая ўрачыстасьць набірае запраўднага чару і сьцягае нязьлічаныя трамады.

Да апошніх дзён у калядных звычаях захавалася шмат абрадаў, якія сваім пачаткам сягаюць, дахрысьціянскіх часоў, але яны так зьмяшаліся з хрысьціянскім зьместам, так прыстасаваліся, што служаць адной і той самай мэце — усьведамленьню велічы сьвята Нараджэньня Хрыста і выяўленьню радасьці выкліканай гэтаю падзеяю. Падобна як калісьці ў немачнае людзкае цела ўцелавіўся Сын Божы, так і ў стараветныя беларускія народныя калядныя абрады счасам прыйшоў хрысьціянскі зьмест, каб служыць адной вялікай мэце — збаўленьню людзкое душы.

**Л. Стаўпецкі.**

# Часы Хрыста і нашы

(Працяг. Пачатак глядзі «Божым шляхам» Нр. 8 (II)).

Пераходзячы да нашых часоў, на самым уступе трэба заўважыць, што запраўды даволі трудна ў кароткім, і да пэўнае ступені схэматычным нарысе, схарактэрызаваць хаця-б толькі важнейшыя праявы так блізкай нам эпохі. Спробу гэтую аднак робім не без перакананьня ў яе карыснасьць.

Падобна як у першай частцы, і цяпер спынімся на чатырох галоўных дзейніках, якімі зьяўляюцца:

1. Сучасная палітыка,
2. Бязбожжа,
3. Сучасная філязофія,
4. Беларускі народ і яго лятуценьні.

### 1. Сучасная палітыка.

У сучасным палітычным жыцьці найважнейшыя ролі адыгрываюць тры дзяржавы: Злучаныя Штаты Амэрыкі, Брытанскі Коммэнвэльт і Савецкі Саюз. Усе іншыя дзяржавы зьяўляюцца або сатэлітамі гэтых трох, або прыяцелямі, або проста звычайнымі калечкамі, патрэбнымі на нейкі час для іхніх палітычных мэтаў. Тры магутнасьці найвялікшыя, тры саюзы, што змаглі ўпрагчы для сваіх інтарэсаў шматлікія народы розных расаў, кліматаў і культур, кіруюць сучаснымі палітычнымі падзеямі.

З гэтых трох Вялікабрытанія там-сям траціць грунт пад нагамі і народы пакрысе вылушчваюцца з яе абыймаў (Афрыка, Індыя, Ірляндыя, Палестына). Няма аднак сумніву, што Вялікабрытанія астаецца і далей адною з палітычных магутнасьцяў.

Найбольш дынамікі і размаху праяўляюць сёньня Злучаныя Штаты Амэрыкі. Іх сіла ў захаваньні дэмакратычнай канстытуцыі, у разьвіцьці вялізарнай індустрыі. Яны найбольш з усіх краінаў сьвету маюць у сваіх банках золата і пакульшто яны адзіныя маюць атомную бомбу.

Савецкі Саюз, зьлеплены насільна і кіраваны падыктатарску бальшавіцкай партыяй, вельмі часта і ў разрэз Божым і чалавечым правом, дзякуючы вялікім памылкам заходніх дзяржаваў, здолеў ня толькі перацярываць апошнюю вайну, але яшчэ нават разрасьціся тэрытарыяльна і патэнцыяльна. Ён зможа праз нейкі час яшчэ крычаць і ганарыцца на міжнародных кангрэсах і асамблеях з тытулу абаронцы паступовай дэмакрыцыі і адначасова рабіць кротавую работу — падсякаць у корані праўдзівую дэмакрацыю.

Усім гэтым тром вялікім навачасным Саюзам ёсьць супольнае: зьбіраць пад свае крыльлі якнайбольш народаў і з іх мантаваць хочаш-няхочаш блёкі прыяцеляў.

Злучаныя Штаты не забываючыся аб Эўропе, перадусім імкнуцца дайсці да аб'еднаньня амэрыканскіх дзяржаваў; апошнія панамэрыканскія кангрэсы ёсьць доказам, што справа на добрай дарозе.

Вялікабрытанія з вялікапанскім жэстам уступае з некаторых дамініяў, але рукамі й нагамі, гдзе толькі можа, стараецца ўтрымаць дагэтулешні стан.

Савецкі Саюз мантуе сваю зборнасьць народаў і рэспублік пры помачы мяйсцовых камуністычных партыяў, кіраваных Масквою, якія па яе загаду строяць забастоўкі, суды «злачынцаў» «фашыстаў» і пад.

Супольным так-жа для ўсіх трох вялікіх дзяржаваў ёсьць гарачка збройная. Найвялікшыя буджэты ўстанаўляюцца на азброеньне, а найважнейшай стаўкай буджэту — атамная энэргія.

Шмат так-жа сёньня гутаркі ў палітычных кругох аб стварэньні эўрапэйскай, а нават сусьветнай фэдэрацыі, ці конфэдэрацыі. Фэдэрацыйны рух мае на мэце: стварэньне сільнага блёку народаў, які змог-бы ў кожным выпадку даць адпор савецкаму імпэрыялізму, абараніць культуру Эўропы і годнасьць чалавека, пры адначасовым захаваньні вартасьцяў, якія маюць магчымасьць унесьці кожны з народаў у агульны скарб чалавецтва.

### 2. Бязбожжа.

У часох Хрыста ня было аднэй, усіх агортваючай, рэлігіі, аднак на дне людзкіх сэрц тлеў агонь веры ў Бога, а тымбольш ня прышло камусьці на думку арганізаваць бязбожнага веравызнаньня. Напэўна і тады былі недаверкі, абыякавыя, зьвіхнутыя жыцьцём і незадаволеныя з законаў Еговы і з лягэндаў аб Зэўсе ці Озірысе, аднак гэта ўсё было далёкім ад саюзу ваюючіх бязбожнікаў.

На працягу цэлае гісторыі толькі ў нашых часох мы спатыкаемся з падобным зьявішчам.

Нявера ў Хрыста перш чым знайшла сабе грунт у Расеі ад часу да часу выяўлялася на Захадзе. Каб пераканаць, што Эвангеліі быццам апокрыфы, што быццам Ісус Хрыстос ніколі ня існаваў, нямала напсавалі паперы і часу псэўдовучоныя Ф. Дюпюі, Бруно Баўэр, Кальтгоф, Давід Штраус і інш. Аднак толькі савецкі саюз бязбожнікаў паставіў, як заданьне свайго існаваньня: выкараніць з людзкіх сэрц веру ў Бога, ня толькі ў сябе, але ўва ўсім сьвеце.

Ленін за Марксам паўтараў: «Рэлігія ёсьць опіюм народу. Рэлігія — сорт духовай сівухі, у якой рабы капіталу топяць свой людзкі выгляд, сваё вымаганьня на якоеколечы людзкое жыцьцё»...

Назваўшы рэлігію опіюм народу, камунізм распачынае з ею змагацца на жыцьцё і сьмерць. У 1925 г. фармальна арганізуецца «Саюз Ваюючых Бязбожнікаў». Калі можна верыць падручніку для работніцкіх антырэлігійных кружкоў (выданьне «Бязбожніка» 1930, с. 397) у 1928 г. саюз бязбожнікаў лічыў 250.000 сяброў, а каля другога агульнага зьезду налічвалася блізка адзін мільён сяброў.

Трэба з засьцярогаю адносіцца да гэтых статыстычных даных, але бяз сумніву трэба прызнаць, што сыстэматычна ведзеная работа руйнаваньня душ, пры падтрымцы і па загаду савецкага ўраду пры помачы прэсы, радыё і прасьледу павінна была даць нейкія вынікі.

Каб зразумець праведзеную работу зарганізаванага бязбожжа ў аднэй толькі Расеі, прыпомнім, што ў гадох 1917-1918 Маскоўскі Патрыярхат налічваў каля 100 тысяч цэркваў і публічных ды прыватных капліцаў, між якімі было адных толькі прыходзкіх 50 тысяч; каля 56 000 сьвятароў каля 100.000 манахаў і манашак, каля 90 мільёнаў вернікаў. Да гэтага даходзіла яшчэ некалькі мільёнаў старавераў і сэктаў. У тым самым часе існавала 87 епархіяў з біскупскімі пасадамі і кожная з іх мела так-жа вікарнага біскупа. Падчас змаганьня і перасьледаваньня толькі ў гадох 1917-1923 зьнішчана 25 біскупаў і 1 215 сьвятароў. Колькі духоўных ад гэтага часу да сёньня страцілі сваё жыцьцё, статыстыкі няма, але ведама, што ў 1939 г. на ўсім абшары Савецкага Саюзу было дзейных усяго 4 «праваслаўных» прокамуністычных ерархаў, рэшта былі ў ссылках канцэнтрацыйных лягэрах. На абшары ўсяго Савецкага Саюзу не асталося ніводнага каталіцкага біскупа і толькі адзін сьвятар пры французскім пасольстве.

За гэты час саветы канчаткова апанавалі праваслаўную ерархію, як і кіраўніцтва розных сэктаў. Тыя царкоўныя ерархіі, якіх бязбожнікі не змаглі апанаваць (каталіцкая), былі вынішчаны. Пасьля гэтага, калі ў 1942 г. патрэбна было для вонкавае прапаганды паказаць «свабоду веравызнаньня» у СССР, быў разьвязаны Саюз Ваюючых Бязбожнікаў, перасталі выходзіць «Бязбожнік» і

пад. часопісы, але затое праваслаўная Царква так далёка зьмянілася, што ў яе бяз ніякіх цяжкасьцяў уліліся розныя савецкія наватары, як Жывая Царква, Царква Адраджэньня, Царква Апостальскай Еднасьці, і гэтая новая савецкая «Праваслаўная Царква» пачала хутка разрастацца. Сёлета яна нарахоўвае 79 ерархаў. Адначасна быў створаны Савет па Справам Праваслаўнае Царквы пры Савеце Народных Камісараў (цяпер Міністрў) СССР, а бязбожніцкая арганізацыя афармілася ў «Усесаюзную Асоцыяцыю дзеля распаўсюджваньня Марксізма».

Гэткім парадкам змаганьне за веру ў Савецкім Саюзе сёньня прыняло больш небясьпечную форму чым калі, бо вядзецца знутры новастворанымі савецкімі духоўнымі ў лоне самай-жа «Царквы» ўслаўляючы Сталіна, як Божага пасланьніка і багаслаўляючы бязбожную савецкую ўладу.

Бяз сумніву ў Савецкім Саюзе так сярод каталікоў, як і між праваслаўных было нямала праўдзівых мучанікаў за Хрыста і за веру, аднак бязбожжа здалела за гэты час зламаць праваслаўных ерархаў, а нязломных вынішчыць, тысячы маладых душаў атравіць атрутай нявера, узгадоўваючы іх на янычараў сусьветнага камунізму. Бязбожжа вырвала многім з рук Евангельле Хрыста і на яе мейсца сіламоц усунула кнігі новых «прарокаў» Маркса, Энгельса, Леніна...

Няшчасны той народ, над якім павісла цемра бязбожжа!

Беларусам ня варта забывацца, што ахвярай бязбожжа было шмат і нашых братоў. Мейма адвагу тады выкарыстаць цярпеньні выгнаньня дзеля адкупленьня нашай бацькаўшчыны, дзеля ратаваньня яе ад найвялікшага зла — ад бязбожжа.

### 3. Сучасная філязофія.

Эўрапэйская культура паўстала з даўнай культуры грэка-рымскай і хрысьціянства. Сынтэза была магчымая, бо ў шмат чым меліся супольныя зьвёны: абодвы дзейнікі прызнавалі дуалізм рэчаіснасьці, прымат духа, залежнасьць чалавека да Абсалюту. Ня дзіва тады, што айцы Царквы захопліваліся грэцкімі філязофамі ў асабліваасьці Плятонам і Арыстотэлем. Сьв. Тамаш з Аквіну, гэній хрысьціянскай і тэолёгічнай думкі, тварэц сынтэзы хрысьціяскага сьветапагляду, Дантэ — гэній хрысьціяскае красы — падпарадкоўваюць у стройных вывадах жыцьцё дачаснае мэтам жыцьця вечнага, мараль узалежніваюць ад Бога і рэлігіі. Такая лінія нефальшывай ортодоксыі на працягу стагодзьдзяў зьяўляецца фундамэнтам грамадзкага і дзяржаўнага ладу. Права, палітычныя і грамадзкія ўстановы, зносіны адзінак, як і дзяржаваў датарноўваліся да этычных нормаў.

Часы раньняга хрысьціянства і сярэднявечча мелі свой асаблівы характар, які быў выяўленьнем эўрапэйскага жыцьця і культуры часу, пакуль не павеялі іншыя ветры, што спрычыніліся да сёньняшняга інтэлектуальнага крызысу і да паўстаньня новых сьветапоглядаў вельмі мала, або нічога ня маючых супольнага з хрысьціянствам.

Рэвалюцыя думкі пачалася так званым Адраджэньнем. Адраджэньне зьвярнулася да ідэалаў перасьпеўшага паганства. Яно славіць дачаснае жыцьцё, ідзе на перакор хрысьціянскім цнотам пакоры і скромнасьці. Ідэаламі гуманістаў зьяўляюцца: веда, сільныя эмоцыйныя перажываньні, вера ў свае сілы. Ад часоў Адраджэньня завважваем у навуцы суб'ектывізм, у праве — макіявелізм, у гаспадарчай сыстэме — капіталізм.

Наступным этапам у разьвіцьці сучаснай думкі ёсьць рэфармацыя. «Протэстантызм — піша праф. Гарнак — ёсьць ня толькі Рэфармацыяй, але і рэвалюцыяй, бо ён пратэставаў супраць ерархічнага парадку, супраць рэлігійнага аўтарытэту, супраць рытуалізму і сакрамэнталізму». Суб'ектыўны падыход да справы ўзвышаецца да нормы догмату, усялякая рэлігія падкопваецца, набірае разгону дзяржаўны абсалютызм, вольную дарогу да поўнага разьвіцьця мае сучасны капіталізм.

XVIII стагодзьдзе — часы дэізму і рацыяналізму. Бога прызнаецца, але як абстракцыю, абыякавага адносна зямных спраў. Розум чалавека прызнаецца найвышэйшаю мераю праўды. Бажышчам філязофаў тагачаснае Нямеччыны зьяўляецца Эмануэль Кант з Каралеўца. Паводля яго чалавек мае магчымасьць пазнаць фэномэн — зьявішча, але ніколі сутнасьць рэчы; Бога розумам не пазнаеш, але Яго існаваньне вымагаецца чалавекам; рэлігія мае выключна рэлятыўнае значэньне...

У XIX ст. пазытывізм і матэрыялізм распачынаюць яўнае змаганьне супраць духовага дзейніка ў жыцьці чалавека. Комт адкідае магчымасьць пазнаньня сфэры духовай, Файербах і Маркс усю рэчаіснасьць упіхаюць у агранічаны круг матэрыі, адкідаюць існаваньне Бога, існаваньне будучага засьветнага жыцьця.

Адраджэньне, рэфармацыя, дэізм і рацыяналізм, пазытывізм і матэрыялізм — вось у скароце круты шлях думкі чалавека на якім ледзь не чатыры стагодзьдзі вялося ўпорыстае змаганьне з духовымі вартасьцямі хрысьціянскае філязофіі, аж пакуль не дайшло да плыткага нігілізму і бессаромнага атэізму. Хаос філязафічнай думкі ўзрастае разам з павялічэньнем ліку філязафічных сыстэмаў, каторых ад часоў толькі Картэзія налічваецца каля 20, а якія вядуць з сабою бязьлітаснае змаганьне. Не дарма Шопэнгаўэр параўноваў іх да султанскіх сыноў, якія ад нараджэнь-

ня толькі думаюць, як загубіць сваіх братоў. Нічога так-жа дзіўнага, што на сучасных унівэрсытэтах, хаця і ёсьць факультэты філязофіі, але нельга знайсьці запраўднай філязофіі, а толькі гісторыю розных яе сыстэмаў. Выняткам каталіцкія унівэрсытэты. І ёсьць надзея, што падобна, як за часоў раньняга хрысьціянства веялкай праўды была хрысьціянская навука, гэтак і сёньня адзіным ратункам ёсьць той старадаўны і адначасова вечна-новы сьветач хрысьціянскай мудрасьці, каторы заўсёды дастойна трымаецца каталіцкаю Царквою.

Філязофія — любоў мудрасьці — ёсьць аднэй з галінаў людзкое веды, якая займаецца ўсім існуючым і маючым якую колечы сувязь з розумам, або воляй чалавека. Філязофія імкнецца пранікнуць у глыбіню апошняй прычыны быту ці зьявішча.

У хрысьціянскім сьветапоглядзе трэба разрозьніць тры сфэры: рэчаіснасьць духовае сфэры, як: Бог, анёл, душа; рэчаіснасьць матэрыяльнае сфэры існуючае навокал нас і рэчаіснасьць ідэяў, або паняцьцяў, што ёсьць у нас быццам адбіты ў люстры абраз і яны адказваюць праўдам, рэальна існуючым вакол нас. Тое да чаго мы даходзім праз нашыя паняцьці, суды і сказы — гэта ня ёсьць нейкая фікцыя, або толькі адбіцьцём рэчаіснасьці, але так-жа рэчаіснасьцю, якая аб'ектыўна існуе вонках нас. Таму навуковыя дасягненьні, маральныя прынцыпы, рэлігійныя праўды — гэта ня выдумка нашага «я», але аб'ектыўна існуючыя праўды, ад прызнаньня якіх узалежнена якасьць нашага жыцьця. Часам патрэбна стагодзьдзяў, каб дайсьці да праўдзівага выснаву, гэта значыць каб зрабіць сказ аб'ектыўна згодны з існуючай рэчаіснасьцю. Праўда аднак незалежная ад волі чалавека і чалавек ёсьць толькі яе слугою, а не яе выдумшчыкам.

Між сучаснымі філязафічнымі сыстэмамі не бракуе .такіх, якія йдуць іншым, зусім фальшывым, шляхам. Паводля іх наша думка і наш суд (сказ) зусім не залежаць ад аб'ектыўнае, існуючае навонкі нас, ці ў нас, рэчаіснасьці, але гэтая рэчаіснасьць залежыць ад нашай волі і думкі. Нічога дзіўнага тады, што на грунце анархіі ў галоўных прынцыпах закрасавала марксістоўская дыялектыка, каторая часта праўдай назыве найвялікшы фальш і з найвялікшага праступства можа зрабіць бліскучы акт гэраізму...

Наступствам суб'ектывізму ў адносінах да праўды ёсьць у палітыцы дыктатура, дзе адзінка або партыя лічаць сябе компэтэнтнай устанаўляць права і яго санкцыі, зьмяняць нормы, або іх накідаць сіламоц іншым.

**4. Беларускі народ і яго лятуценьні.**

Уладзімір Салаўёў пісаў: «Ідэяй народу ня ёсьць тое, што ён сам аб сабе думае ў часе, але тое, што думае аб ім Бог у вечнасьці».

Важным ёсьць знаць гісторыю і гэаграфію свае бацькаўшчыны, звычаі, псыхалёгію, культуру, — але куды важнейшым знайсьці правідловы адказ на пытаньне: якую місію Бог вызначыў споўніць майму народу на працягу яго гісторыі?

Калісь жыдоўскаму народу Божую волю абвяшчалі натхнёныя прарокі, мы цьвяроза глядзячы ў нашу мінуўшчыну, знаючы стан цяперашні, павінны самі яе выкрыць, каб не памыліцца горка ў будучыні.

Пакідаючы на баку рамантычныя мэсыяністычныя ідэі, да чаго хіліцца кожная эміграцыя ў час вялікіх цярпеньняў, трэба прызнаць, што бяз сумніву спадабалася Богу, каб беларусы **сталі народам хрысьціянскім.** Народ — гэта сьведамая свае апрычонасьці грамада, злучаная ў адну суцэльнасьць супольнай мовай, традыцыямі, абмежаваная тэрытарыяльна. Гэтая грамада ня ёсьць мэтай сама для сябе, але яна павінна стварыць такі палітычна-грамадзкі лад, у якім поўнасьцю магла-б разьвівацца адзінка і пры сваім разьвіцьці, каб яна магла стацца карыснай для свае ўласнае грамады, з якое выйшла, і для ўсяго чалавецтва. Каб даць магчымасьці разьвіцьця адзінцы патрэба, каб народ быў вольны і самастойны. Усё прыгожае, вялікае і шляхотнае ў чалавеку, каб яно выявілася і закрасавала, патрабуе ўзгадаваньня сямейнага, царкоўнага і дзяржаўнага. Гармонійная судзейнасьць кожнага з тэтых дзейнікаў з рашучым уплывам на душу чалавека можа нармальна адбывацца ў собскай дзяржаве. Дзеля таго ня будзе нялёгічным вывад, калі мы скажам, што дзеля Божай славы, дзеля большай карысьці чалавецтва беларусам патрэба **хрысьціянскага дзяржаўнага ладу.**

Беларусы — найменш крыклівы народ паміж славянамі — азначаюцца стойкасьцю за праўду, ахвярнасьцю, вялікай цярплівасьцю. Не забывайма, што гэтыя прыметы ёсьць так-жа асаблівасьцю ўсіх герояў, а ў першую чаргу мучанікаў. Ці ня ёсьць у пляне Божым, каб мы, даныя нам Богам прыметы, выкарысталі сьведама для Яго большай славы? Нам патрэба мужных жаўнераў, глыбокіх вучоных, вялікіх сьвятых. Мы — станьмася імі! У час бушуючага па нашай старонцы бязбожжа, мы тут у вольных краінах павінны быць першымі ў радох змагароў за ідэалы хрысьціянства і вольнага чалавека.

**а. др. Ч. Сіповіч.**

# Пачаткі Хрысьціянства на Беларусі

У сучасным стане досьледаў мала што ведама аб пачатках хрысьціянства на Беларусі. Нажаль мала ёсьць надзеі, каб было магчыма пазнаць дакладней гэты цікавы пэрыяд нашае гісторыі. Гэты артыкул мае на мэце коратка падаць да ведама тое, што сьцьверджана дасюлешнімі досьледамі.

Апавяданьне Лаўрэнціеўскага летапісу аб тым, што быццам ап. Андрэй меў праяжджаць праз нашу бацькаўшчыну водным шляхам «з Варагаў у Грэкі», каб з Сінопы, якая ляжала на беразе Чорнага мора, трапіць у Рым, сёньня агульна прызнана наіўнаю лягэндаю, створанаю ў Кіяве у XII в. на ўзор візантыйскае лягэнды з VII в. аб тым-жа апосталу. У самым-жа летапісу ёсьць мейсцы якія выразна супярэчаць гэнай лягэндзе, кажучы, што «апосталы на Русь ня прыходзілі... толькі ап. Паўло быў у Істрыі». Да таго ў лягэндзе ёсьць так-жа нямала супярэчнасьцяў. Бяз дай прычыны летапісец застаўляе апостала вылазіць на Кіяўскіх горах і багаславіць іх, а аб волаках, дзе ўсе мусілі вылазіць з чаўноў, не ўспымінаецца ні слова. Апостал, які ў сваім вандроўным жыцьці бачыў толькі звычаяў і абрадаў, прыйшоўшы ў Ноўгарад, замест навучаць людзей, насьміхаецца з іхных звычаў. Хоць аб апосталу Андрэю захаваліся толькі лягэндарныя жыцьцяпісы, але і тыя нічога не ўспамінаюць аб ягоным падарожжы ў Рым пра водны шлях «з Вараг у Грэкі».

Лягэнда была створана ў часе варажнечы Кіява з Ноўгарадам і змаганьня Кіяўскае мітраполіі з Візантыйскім цэнтрам за большыя правы, таму яе аўтар жадаў паказаць Візантыі, што ўжо быццам пачынаючы ад апостальскіх часоў тут было хрысьціянства, якое лучыла ўсходніх славянаў з Рымам праз Варагаў. Таму аднак, што гэтая лягэнда вельмі наіўная, прыхільнікі Рымскага цэнтру ніколі на яе не спасылаліся. Расейскія праваслаўныя гісторыкі толькі часткова спасылаліся на яе, а сёньня агулам яе залічаюць да лягэндаў бяз ніякае гістарычнае вартасьці. Гэта тымбольш пэўна, што аб падарожжы апостала па ўсходня славянскіх землях няма ніякіх ані ўспамінаў, ані сьледу.

Наш народ выступае на гістарычнае відовішча чыста паганскім. Гэтае паганства мела сваеасаблівую форму, таму аднак, што пасьля стараньняў Уладзіміра у 980-987 гадох аб'яднаць усе ўсходня-славянскія пляменьні пачынаючы ад іхных рэлігіяў, паасобныя веравызнавальныя формы гэтых пляменьняў паважна зьмяшаліся ў кіяўскім пантэоне на Пяруновай гары, цяжка сёньня дакладна азначыць веравызнавальныя формы нашых продкаў.

Варты аднак асаблівае ўвагі той факт, што паганскае веравызнаньне нашых продкаў побач абагаўляньня шматлікіх сілаў прыроды, вырозьнівае аднаго вярхоўнага Бога, як гэта можна выразна бачыць з казкі аб стварэньні сьвету, дзе бог неба спатыкаецца з такою сілаю, якая кажа аб сабе: «А Я над багамі Бог». Казка не падае імені гэтага Бога, відаць яно было забаронена як тотэм, аднак Яму прыпісвае стварэньне сьвету.

Гэты выразны сьлед першапачаткавае монатэістычнае (аднабожнае) рэлігіі нашых продкаў у значайнай меры ўмагчымліваў прыняцьце хрысьціянства.

Аднак на пытаньне: калі нашы продкі прынялі хрысьціянства? сёньня, падобна як і ў мінулым стагодзьдзі, прыдзецца адказаць славамі гісторыка В. Данілевіча: «Аб часу прасьвячэньня Полацкае зямлі хрысьціянствам няма ніякіх вестак у нашых летапісах». Аднак гэтага адказу нельга так разумець, быццам у нас агулам няма вестк аб часе прыняцьця хрысьціянства нашымі продкамі.

Справа ў тым, што ў нас ня было прымусовага хросту, як гэта было ў іншых народаў, таму летапісы не маглі зьвязаць пачатку хрысьціянства ў нашай бацькаўшчыне з ніякаю датаю. Грамадзкі лад нашых пляменьняў быў такі, што ніяк не дазваляў насільнага хросту. У іншых краінах князі сіламоц хрысьцілі сваіх падданых, а беларускія князі гэтага рабіць не маглі, бо залежалі ад веча і калі нешта часам хацелі ўводзіць супраць волі веча, тады ім іхнія-ж падданыя «паказвалі пуць» — выганялі. Становішча нашых князёў так выказаў Я. Купала:

З вольнай дружынаю князь на пасадзе
Вольнаму люду законы пісаў;
Слухалі князя, а князь што ня ўладзіў, —
Слухаў, што веча яму звон казаў.

Гэткім парадкам хрысьціянства у нас ня было накінена з гары ,але паволі пашыралася зьнізу. Гэтымі нізамі ня былі шырокія масы, але перадусім жыхары гарадоў. (Масы вясковага насельніцтва яшчэ доўга трымаліся свае старое веры). Праўда князі ў гэтым пашырэньні ня былі апошнім дзейнікам, наадварот, яны аднымі з першых прыймалі хрысьціянства і сваім аўтарытэтам у значнай меры прычыняліся да ягонага пашырэньня. Дзякуючы гэткаму спосабу хрысьціянізацыі у нас ня было паганскае рэакцыі, як гэта было ў Баўгарыі, потым у Польшчы і Мадзяршчыне.

Першым бясспрэчна хрысьціянскім князем на Беларусі быў Ізяслаў (987-1001) і яго маці Рагнеда (у манастве Анастасія). Летапісы так адзываюцца аб Ізяслве: «Быў-жа гэты князь ціхі і лагодны, і пакорны, і літасьцівы, і вельмі любіў і

шанаваў сьвятарскі чын і манашы, і пільна гарнуўся да Сьвятога Пісаньня». Але аб тым як ён пашыраў хрысьціянства, нічога не гаворыцца.

Ішло хрысьціянства на Беларусь рознымі шляхамі, аднак найважнейшым з іх быў гандлёвы шлях «з Варяг у Грэкі» Праз яго езьдзілі купцы з усяго тагачаснага культурнага сьвету, тудэма вандравалі розныя дружыны, тудэма-ж вярталіся й палонныя. Можна дагадвацца, што першымі місыянэрамі ў нас былі якраз купцы і нявольнікі. Яны калі не прапаведвалі, дык прынамся азнаёмлівалі людзей з новаю вераю і тым самым падрыхтоўвалі трунт для яе.

Час прыняцьця хрысьціянства міма таго, што нельга азначыць нейкаю дакладнаю датаю, можна і трэба прыняць самы канец дзясятага веку, гэта значыць час хросту першых князёў. Якраз у гэтым часе адчуваецца моцная хваля разросту хрысьціянства з краінаў калішняе Рымскае Імпэрыі на паўночны-ўсход.

Гэта можна ясна бачыць з хронікі тагачасных падзеяў:

823 Місыйнае падарожжа біск. Эббо ў Данію.
826 Хрост данскага караля Гарольда.
829 Місыя сьв. Ансгара ў Швэцыю.
845 Хрост 14 чэскіх ваяводаў у Ратысбоне.
859 Сьв. Ансгар назначаецца першым біскупам Швэцыі.
858-861 Місыя сьв-х Кірыла і Мяфода між Хазарамі.
863 Місыя сьв-х Кірыла і Мяфода ў Маравіі.
866 Першы япіскап у Тмутаракані.
866 Хрост баўгарскага князя Богарыса.
867 Хрост кіяўскага князя Аскольда.
885 Пераход з Маравіі ў Баўгарыю вучняў сьв-х Кірыла і Мяфода.
912 Нарманскі ваявода Рольлен прымае хрост з рук Руенскага архібіскупа.
941 Успамін аб тым, што ў дружынах «рускіх» князёў ёсьць хрысьціяне.
950 Прыход місыянэраў у Мадзяршчыну.
955 Хрост кіяўскае князёўны сьв. Ольгі.
961 Сьв. Адальбэрт прыязджаў у Кіяў і праз Ноўгарад ад'ехаў назад у Нямеччыну.
966 Хрост польскага караля Мешка I.
973 Першы біскуп у Празе Чэскай.
988 Хрост Кіяўлян.
989 Хрост Ізяслава і Рагнеды.
1004-9 Місыйныя падарожжы сьв. Бруно ў Мадзяршчыну, Русь і Прусію.

Адгэтуль бачна, як хваля хрысьціянізацыі паволі налягала на беларускія землі і ўканцы Х-га веку поўнасьцю ахапіла іх. Таму гэты час і належыць уважаць пачаткам хрысьціянізацыі нашых продкаў. Няма ніякага сумніву, што паасобныя хрысьціяне маглі спатыкацца ў гарадох значна раней. Ужо ў 905 г. была ў Канстантынопалі пры царкве сьм. Мамы калёнія «рускіх» купцоў. Але хрысьціянства, як дзяржаўнае веравызнаваньне стаецца ў нас толькі ў самым канцы Х-га веку. Што да гэтага годзяцца ўсе гісторыкі. Разьбежнасьці ў поглядах вырынаюць толькі тады, калі пачынаюць пытацца: хто меў большы ўплыў на нашых продкаў у насаджваньні хрысьціянства? Да гэтага маглі прычыніцца грэкі, варагі і баўгарскія сьвятары.

Грэкі былі хрысьціянамі з апостальскіх часоў і як гандлёвы народ даходзілі да найдальшых куткоў Эўропы. Але адносіны нашых продкаў да грэкаў былі вельмі няпрыхільныя за іх купецкае круцельства і тым самым ня спрыялі пашырэньню хрысьціянства . Летапісы адназгодна сьведчаць аб тым, што грэкаў у нас ня любілі. З палітычных меркаваньняў усходнеславянскія князі ахвотна ўвайходзілі ў зносіны з Візантыяю, як культурным цэнтрам і прымалі адтуль мітрапалітa, а нават паасобных япіскапаў, але да іх дзейнасьці адносіліся з засьцярогаю. Як ні дзіўна, але стараньні мітрапалітаў грэкаў завесьці грэцкую мову ў багаслужэньнях асталіся дарэмнымі. Царкоўная ўправа паводля візантыйскага ладу такжа ня прынялася. Наадварот, сам мітрапаліт, найчасьцей грэк, і усе япіскапы свае кліpасы мелі зарганізаваныя на ўзор капітулаў пры лацінскіх біскупах.

Другім рухавым народам, які быў добра ведамы нашым продкам, былі Варагі. Іх можна было спатыкаць у дружынах амаль кожнага князя. Яны ўсё новымі і новымі хвалямі прыязджалі з Скандынавіі. Але ад палавіны Х-га веку Скандынавія стала хрысьціянскай лацінскага абраду. Таму нічога дзіўнага, што ў гэткіх варажскіх дружынах часта спатыкаліся лацінскія духоўныя. Найлепшы доказ гэтага бачым у Тураўскім княстве, куды Уладзімір быў выслаў свайго найстарэйшага сына ад Грэкіні ўдавы па Яраполку-Сьвятаполка. Сьвятаполк разам з жонкаю, дочкаю польскага караля Болеслава правёз лацінскага біскупа Райберна родам немца і хрысьціў Дрыгвічоў у лацінскім абрадзе, аж пакуль бацька не пайшоў за гэта на сына вайною. Цікава адцеміць, што ў Ноўгарадзе В. так-жа летапісец аж двойчы ўспамінае «Піскупью» вуліцу (1049 і 1167), хоць аб самым біскупу вестак не падае. Але ўжо ў XI в. усе варагі на Русі былі ўсходняга абраду; гэты абрад пашыралі між мяйсцовым насельніцтвам. Ад іх усходняе хрысьціянства атрымала назоў «Рускае веры».

Трэйцім і найважнейшым дзейнікам у пашырэньні хрысьціянства і ўласьцівымі хрысьціянізатарамі былі сьвятары. Хто былі гэтыя сьвятары? З таго факту, што ўва ўсіх усходніх славянаў багаслужэбная мова ад самага дзясятага веку ўжывалася стара-баўгарская трэба дагадвацца, што і сьвятары мусілі паходзіць з Баўгарыі. Першы кодэкс царкоўнага права «Номоканон» у царкоўна-

славянскай мове з XII в. так-жа зусім падобны да таго, які ўжываўся ў Баўгарыі. Характэрны ён між іншым тым, што ня мае 28-га правіла Халкідонскага сабору, якога не зацьвердзіў папа Леў I. Пэўна, што гэтых сьвятароў было ня шмат, але яны былі ці не адзінымі працаўнікамі, якія прасьвячалі і навучалі народныя масы. Мэтад іхняе працы быў тым-жа, які запачаткавалі сьвятыя славянскія апосталы Кірала і Мяфод, трымчаючыся ўсходняга абраду трымаліся адначасна Рымската цэнтру. Відаць, што нават япіскапы-грэкі супроць іх былі бясьсільныя.

Яшчэ ў XII в. ёсьць выразныя сьляды ўплыву сьвятых Кірыла і Мяфода на Беларусі. Доказам гэтага можа быць казаньне сьв. Кірыла Тураўскага «Пахвальнае слова Клімэнту Рымскаму». Культ сьв. Клімэнта на славянскіх землях зьвязаны з асобамі Кірыла і Мяфода, бо гэта яны знайшлі мошчы гэтага сьвятога папы ў Корсуні і доўгі час вазілі іх усюды з сабою. Відаць, што сьв. Кірыла Тураўскі мусіў быць пад моцным уплывам вучняў сьв-х Кірыла і Мяфода. Можна дагадвацца, што з пашаны да іх імя сваё ў манастве зьмяніў на Кірыла.

Калі тут закранаецца справа лацінскага і ўсходняга абраду, дык неабходна зрабіць адну заўвагу. Сучасны падзел Царкоў на Каталіцкую і Праваслаўную ўжо так уеўся ў нашу сьведамасьць і падсьведамасьць, што ня раз і ў найстарэйшых часох па прывычцы хочацца дабачыць гэты падзел нават там, дзе яго ніколі ня было. Вось-жа ў імя праўды трэба сьцьвердзіць, што ў X-м веку, калі пачало прыймацца хрысьціянства на Беларусі так Усходняя, як і Заходняя-Рымская Царква міма розьніцы абрадаў і дробных дысцыплінарных непаразумленьняў тварылі адну Царкву, якая называлася Сьвятая Праваслаўная Каталіцкая Царква. Так было аж да 1054 г. Абедзьве яны да часу падзелу былі аднолькава жыцьцёвыя, аднолькава экспанзыўныя. З вышэйзьмешчанае хронікі відаць, як яны абедзьве робяць наступ на паганскія краіны. Іхнія місыянэры часта спатыкаліся з сабою, іхнія інтарэсы часта зачэпліваліся і пераблытваліся, але адінства ня трацілася. Таму хоць сьвятыя Кірыла і Мяфод былі выпраўлены на місыйную працу між славян з Візантыі, але калі стрэнуліся з няпрыхільным становішчам немцаў і абмовамі з іх боку, дык ідуць апраўдвацца ў Рым і там ня толькі атрымоўваюць пацьверджаньне правільнасьці свае працы, але яшчэ Мяфода папа Адрыян II падымае да годнасьці архіяпіскапа.

Вельмі характэрная рыса, што амаль зразу пасьля падзелу Царкоў (1054 г.) Візантыйская Царква траціць той місыйны гон, якім азначаліся абедзьве цэркві да гэтага часу. Рымская Царква яго захавала да апошніх дзён. Сам назоў Царкоў так-жа падзяліўся: Візантыйская Царква пачала карыстацца пераважна назовам Праваслаўная, а Рымская зьвярнула большую ўвагу на Каталіцызм (Сусьветнасьць).

Для тых народаў, якія толькі нядаўна пачалі хрысьціянізавацца, як гэта было ў нашай бацькаўшчыне, падзел Царкоў яшчэ доўгі час быў незаўважальным. Адносіны з Рымам доўгі час у нас былі гэткія самыя, як і раней, імя рымскага патрыярха-папы і далй успаміналася на багаслужэньні, папскія пасьлы прыходзілі да князёў, князі высылалі сваіх паслоў у Рым. Да самага XIII в. нашы князі свабодна ўвайходзілі ў сужэнскія зьвязкі з заходнімі князямі, як адзінавернымі бяз ніякіх засьцярогаў з боку Рыму і бяз ніякіх дыспэнзаў.

Япіскапы-грэкі на нашых абшарах бачылі добра гэтае на іх пагляд «неправаслаўнае» становішча і стараліся супроцьдзейнічаць, выдаючы пару пасланьняў супроць «латынян», але посьпех іх быў малы. Тымбольш, што падзел Царкоў адбыўся якраз тады, калі Кіяўская мітраполія была ў нязгодзе з Візантыяю дзеля мітрапаліта Іларыёна.

Гэтыя факты для пазьнейшых расейскіх-праваслаўных летапісцаў былі зусім недаспадобы, таму яны іх абмінаюць моўчанкаю. Запраўды вельмі дзіўна, што нават аб першых япіскапах на Беларусі ня маем ніякіх вестак. Амаль усе гісторыкі дагадваюцца, што на абшары Беларусі з найдаўнейшых часоў мусілі быць тры епархіі: Полацкая, Тураўска-Пінская і Смаленская. Да найстарэйшых епархіяў належыць Полацкая. Сапуноў на аснове паважных фактаў устанаўляе дату заснаваньня Полацкае епархіі на 992 г. Але дзіўна, што першы япіскап аб якім успамінаюць летапісы ёсьць Міна, які быў харытанізаваны ў Кіяве 13-XII-1105 г. Аб папярэдніках няма ні слова, толькі прыпадкам у жыцьцяпісе сьв. Еўфрасініі гаворыцца, што гэныя папярэднікі былі.

Тое самае бачым і ў Смаленску. Першым япіскапам аб якім находзім весткі ў летапісу, быў грэк Мануіл Кастрат (1137-1169), а япіскапы ўжо напэўна былі ў 1101 г. і служылі ў каменнай царкве Багародзіцы.

Аб Тураве яшчэ менш вестак знайшлося ў летапісах. Толькі сьв. Кірыла Тураўскі (1130-1182) дзякуючы сваёй нябудзённай славе заслужыў на ўспамін.

Можна думаць, што мусіла быць нешта недаспадобы пазьнейшым чужым летапісцам у асобах першых япіскапаў, калі не ўспамянулі аб іх. На жаль старыя беларускія летапісы, якія маглі-б выясьніць не адну загадкавую для нас справу, загінулі ў Полацку падчас заняцьця яго Іванам Грозным у 1563 г.

У сьціслым зьвязку з пашырэньнем хрысьціянства стаіць пашырэньне царкоўнага будаўніцтва. (Маецца на ўвеце мураванага). Да найста-

рэйшых памятак нашае архітэктуры адносіцца Благавешчанская царква «на ніжнім замку» у Віцебску, пабудаваная магчыма ўканцы X-га веку або ў XI і аднаўленая Альгэрдам у XIV в. У Полацку найстарэйшаю каменнаю царквою мусіла быць царква Багародзіцы пабудаваная ў 1007 г., туды былі перанесены целы князёў Ізяслава і Усяслава Ізяславіча. У тым-жа Полацку ўканцы XI в. быў збудаваны Сафійскі сабор, каля 1150 г. Барысаглебскі сабор і Пятніцкая капліца Бельчыцкага манастыра, каля 1161 г. Спаса-Еўфрасінінская царква.

У Смаленску найстарэйшаю мураванаю царквою мусіла быць царква Багародзіцы, аб якой успамінаецца ўжо ў 1101 г. і наступна царква Архангела Міхаіла пабудаваная ў 1191-1194 г.

У Горадні да найстарэйшых мураваных памятак належыць Каложская царква пабудаваная ў XI або найпазьней ў XII в.

Варта асаблівае ўвагі, што гэтыя сьвятыні будаваліся беларускімі дойлідамі, на жаль пайменна ведамы толькі полацкі дойлід Іван, аб якім успамінаецца ў жыцьцяпісе сьв. Еўфрасіні. Яны сьведчаць вельмі вымоўна, які паважны крок ужо ў XI веку зрабілі нашы продкі пад уплывам хрысьціянства, і як у пары з духовым разьвіцьцём ішла наперад матэрыяльная культура народу.

Няма найменшага сумніву, што адначасна з пашырэньнем хрысьціянства, паўставалі на абшарах Беларусі манастыры. Ужо ў канцы X в. мусіў быць дзесьці ў Полацку, або каля Полацку якісьці манастыр, у які ўступіла Рагнеда. У XI в. мусілі быць манастыры ў Полацку, Смаленску і Тураве. Таму варта зьвярнуць увагу на манастыры, што яны ў нас былі першымі школамі і рассаднікамі кніжнае асьветы. Там ня толькі навучаліся граматы, але там-жа перапісваліся кнігі, рыхтаваліся кадры архірэяў і сьвятараў, там і князі мелі сваіх дараднікаў.

Вось тыя нешматлікія весткі, якія дайшлі да нас, адносна пачатку хрысьціянізацыі нашае бацькаўшчыны. Адгэтуль відаць, як мала яшчэ дасьледжана нашае мінулае і як шмат ёсьць там пытаньняў, якія чакаюць сваіх дасьледнікаў, якія-б шчырым сэрцам выкрылі праўду, незалежна ад таго, ці яна падабаецца каму, ці не.

а. **Л. Гарошка**.

# Дробнае зернятка

Дзеялася гэта ў 1944 г., калі ў Бэрліне за бомбамі і развалінамі цяжка было знайсьці сьветлую часіну. Напоўзьняволеныя работнікі заўсёды сумныя, яшчэ больш чуліся сумнымі з набліжэньнем Калядных сьвятаў. Сумна было Міхасю, жывучы ў бараку, што нечым азначыць тое сьвята, якое на бацькаўшчыне сьвяткавалася заўсёды так урачыста. Ягоны пакойчык цяцер выдаўся яму больш цесным, як заўсёды і няпрыветным быццам дамавіна. Міхась апрануўся і вышаў на карыдор. Некалькі крокаў ад ягоных дзьвярэй ля вакна стаяла двое людзей: сусед-араб і нейкі незнаёмы. Яны маўчалі. Незнаёмы ўважліва апарожніваў свае кішэні і, відаць прыпадкам, апароў там нейкае дробнае зернетка. Рыўком ухапіў яго і, соваючы пад самы нос араба, казаў:

— На пакаштуй, бацькаўшчынай пахне! Чуеш!?

Араб бяз слова супраціву разжаваў зернятка.

— А мне дык з някім і слова прамовіць, падумаў Міхась і накіраваўся на вуліцу, палагоджваючы фармальнасьці, абавязуючыя пры выхадзе з бараку.

— Куды-ж ісьці? Можа ў камітэце каго спаткаю?

Ён узяў кірунак на Альт Моабіт і за паўгадзіны ўжо быў на Штром штрассэ. Але і там як на тое нікога не спаткаў. Выйшаўшы з камітэту, пайшоў уніз па вуліцы, абы йсьці. Але не прайшоў і некалькі крокаў, як на розе вуліцы чуць ня стукнуўся з сваім прыпадковым знаёмым манахам-немцам.

— Вы куды? Можа да нас?

— Праўду кажычы дык не. Быў зайшоў у наш камітэт, а цяпер іду дамоў.

— Куды дамоў? Дзе-ж ваш дом? сьмяяўся немец.

— Тымчасам хіба там дзе начую.

— Лепш запраўды йдзем да нас і спаткаем разам Сьвяты Вечар.

— Шчыра дзякую айцу за запросіны. Хоць ня маю ніякае прычыны адмовіцца ад іх, але і прыняць іх нельга.

— Што там нельга. Падзякуеце потым.

— Да вечара яшчэ часу а часу: цяпер-жа яшчэ толькі полудзень.

— Гэты значыць, што маеце яшчэ даволі часу пажывіцца сьвежым паветарм і на шостую галзінv прыйсьці да нас пажывіцца больш салíднымі рэчамі. Згода?

Неяк было адмаўляцца, Міхась хоць неахвотна, але згадзіўся. Каб выкарыстаць некалькі вольных гадзін ён накіраваўся ў Зоо, спадзяючыся адначасна спаткаць там сваіх сяброў, якія працавалі ў зьвярынцы.

Але і тут як на тое нікога з сяброў не дапытаўся, дык пайшоў абходзіць зьвярынец. Ля загарадаў з вярблюдамі ён убачыў некалькі чалавек і між імі зноў свайго суседа-араба. Ён гла-

дзіў выцягнутую мызу вярблюда і нешта гаварыў, усьміхаўся да яго, лопаў рукою па сківіцах, а потым моцна прытуліў вярблюдову галаву да свае шчакі і неяк дзіўна ўсьміхаўся.

Міхась хутчэй адчуў, чым зразумеў, што араб мусіў казаць:

— Эх, сябра, сябра! Ты ў горшай няволі, як мы. Даруй, што табе сёньня нічога ня прынёс, але і сам нічога ня маю...

Міхась завярнуў ад гэтых загарадаў улева і хутка апынуўся перад загарадамі з зубрам.

— І ты адзін белавескі зямляк. Цябе ніхто ня прыталубіць.

На словы людзкое гутаркі зубр узьняў крыху галаву і паглядзеў на глядзельніка.

— І я табе ня дам ніякага ласунку, але можа дазволіш, дык хоць твой віхрасты чуб разгладжу.

Міхасёва рука боязка прасьцягнулася да магутнае галавы зубра і пальцы пачалі далікатна чухаць скудлачаны чуб і патыліцу. Аграмадная галава зубра ўперлася ў прыгі загарады. Відаць дзікі зьвер з прыемнасьцю адчуваў казытлівыя рухі.

Міхась аглянуўся, ці хто яго ня бачыць. Нікога не спасьцярогшы, ён азваўся галасьней да зубра.

— Што прыемна, кажаш? Ніхто цябе відаць ня чэша. Гэта брат ня ў пушчы; тут табе лес ня шуміць і жуброўка не расьце, толькі сырэны выюць ды бізунамі хвошчуць. А худы-ж ты не, раўнуючы, як і наш брат. Ці дадуць табе хоць на Колялы ўдостань пад'есьці?..

Міхасю здавалася, што зубр разумее кожнае яго слова. Воддаль пачуліся нечыя крокі. Міхась адразу сьціх і пакінуў часаць жубра. Па хвіліне ён пайшоў далей, а жубр праводзіў яго позіркам.

— Іншым разам трэба будзе яму хоць скарынку прынесьці, думаў Міхась. Глянуўшы на гадзіньнік ён пасьпяшыў у манастыр і прысьпеў якраз на час. Яго пасадзілі на пачэсным месцы. У асяродзьдзі манахаў Міхась спачатку пачуваў сябе трохі ніякава, але слова па слову завязалася жывая і вясёлая гутарка, бышцам у найлепшыя часы і ў багатай сталовай. Стол быў застӑлены так, што заправы ані вайны, ані картачнае сыстэмы амаль і сьледу ня было.

— Мы аб верніках стараемся, вернікі аб нас не забываюцца, дык вось бачыце з гэтага на стале прысмакі зьявіліся. Так паясьняў адзін з айцоў гэтае няштодзеннае зьявішча. (

Каб ня чужая мова, Міхась адчуваў-бы сябе, як дома.

Нязначна мінаў час. Уканцы засьвяцілі ялінку і кожнаму з гумарам далі дарункі, а напасьледак перад кожным паставілі па вялікай місцы ласункаў. У міхасёвай місцы на самым версе ляжала прыгожае ружовае яблыка. Доўга ўзіраўся на яго Міхась і ня мог адарваць зору.

— Дзе я бачыў гэткія яблыкі? думаў ён.

— А-а воо дзе! У Барыса на бацькаўшчыне. Барыс... што ён сёньня есьць? Ужо другі год у канцэнтрацыйным лягэры.. Каб яму паслаць гэта, вось-бы яму запахла бацькаўшчынай...

І міхасёва рука не прасьцягнулася ані да яблыка, ані да ласункаў.

— Вы чаму не ясьце? пытаўся сусед. Гэта-ж самыя смачныя рэчы.

— Бачу, войча, што смачныя, нават вельмі смачныя, але хацеў-бы прасіць Вас, дазволіць мне забраць іх з сабою.

— Хіба цяпер ня зьмесьцяцца ў страўніку?

— Ня ў тым рэч. У мяне ёсьць адзін далёкі знаёмы, які цяпер знаходзіцца ў канцэнтрацыйным лягэры. У яго няма ні родных, ні каго іншага, хто-б падбаў аб ім. Дык я хаце-бы паслаць яму гэтыя рэчы.

— Добра. І кіўнуў галавою на знак згоды.

Калі, запеўшы калядныя песьні, уставалі ад стала, зьнікла дзесці ружовае яблыка ў міхасёвай місцы... яго засланіла цэлая куча іншых ласункаў ад другога суседа.

Падзякаваўшы айцом за гасьціну, Міхась ішоў да сябе з пакункам у руцэ і міжвольна думаў:

— Адкуль ён вырас гэты пакунак? Няўжо гэта нябачна разраслося тое дробнае зернятка, якое даваў незнаёмы суседу? Але ці будзе яно расьці далей за калючым дротам?

А за калючым дротам, калі Барыс нечспадзявана атрымаў пакунак і раскрыў яго, вачом сваім не хцеў верыць, але на мамэнт пачуўся зноў чалавекам і шчыра падзіцячаму ўсьміхнуўся, ягоныя сябры так сама.

— Мусіць Міхась добра Раство сьвяткаваў, калі аба мне ўспомніў, — шаптаў сабе праз сьлёзы.

**Анатоль Жменя.**

# НА РЭЛІГІЙНАЙ НІВЕ

## ПАДРЫХТОЎКА ДА СЬВ. ГОДУ.

Дэкрэтам Сьвяцейшага Айца Пія XII пакліканы да жыцьця арганізацыйны Камітэт, які мае заняцца падрыхтоўкай да юбілейных урачыстасьцяў, што маюць адбывацца ў Рыме ў 1950 г. Гэткія урачыстасьці, зьвязаныя з шматлікімі адпустамі і адбываюцца ў Рыме што 25 год. Называюцца яны Сьвятым Годам.

У паасобных краінах пачалі тварыцца Камітэты дзеля арганізаваньня паломніцтваў у Рым на ўрачыстасьці Сьвятога Году.

## ЛІК КАТАЛІЦКІХ СЬВЯТАРОЎ.

Паводля статыстыкі Папскага Інстытуту Прапаганды лік каталіцкіх сьвятароў ува ўсім сьвеце і ўсіх абрадаў у 1948 г. узрос да 947.000 чалавек, з іх 250.000 манахаў.

## НОВЫ ПРАВАСЛАЎНЫ ВІЗАНТЫЙСКІ ПАТРЫЯРХ.

З прычыны хваробы Візантыйскі Праваслаўны Патрыярх Максім дня 18-Х г.г. зрокся свайго пасаду. На яго мейсца выбраны на патрыярха ньюёрскі архіяп. для грэкаў Атэнагорас. Новаабранаму Патрыярху турэцкі ўрад адразу даў турэцкае грамадзянства і пашпарт, каб ён мог у хуткім часе пераехаць у Канстантынопаль.

Патрыярх Атэнагорас мае 62 гады і азначаецца няпрымірымасьцю да бальшавікоў.

## ВАРТАСНАЯ ЗНАХАДКА У ЕРУЗАЛІМЕ.

Дырэктар арыентальных досьледаў амэрыканскае школы ў Ерузаліме паведамляе, што ў Палестыне нядаўна знойдзена найстарэйшы, дагэтуль ведамы, рукапіс Бібліі Старога Запавету. Знахадка паходзіць з першага веку перад нар. Хрыста. Адначасна знойдзена тры іншых рукапісы з біблійных часоў.

## ТАЙНЫ ХРЫСЬЦІЯНСКІ РУХ У САВЕТАХ.

Нямецкі езуіт а. Шэкальля, які нядаўна потайна аб'яжджаў Зах. Нямеччыну і Савецкі Саюз, сьцьвердзіў, што на ўсім падсавецкім абшары разьвіваецца «тайны хрысьціянскі рух», які абымае мільёны вернікаў так каталікоў, як і праваслаўных.

## ПАСЬМЕРТНАЕ ДЗЕЯНЬНЕ ГАНДЗЯГА У ІНДЫІ.

Канстытуцыйнае Зграмаджэньне ў Новых Дэльфах дня 29 лістапада г.г. прыняла важны артыкул для новае Канстытуцыі ў Індыі, які касуе дасюлешнюю няроўнасьць расаў, полаў, рэлігіяў і кастаў між грамадзянамі Індыі. Гэткім чынам 50 мільёнаў парыясаў, якіх да гэтага часу іншыя вышэйшыя касты не маглі дакранацца, сталіся поўнавартаснымі грамадзянамі. Галасаваньне гэтага артыкулу Канстытуцыі адбылося з клічам: «Гэта перамога Ганді», бо за гэта Ганді змагаўся ўсё жыцьцё.

## ПАСТЫРКІ ЛІСТ КАРДЫНАЛА МІНДСЭНТІ.

У зьвязку з тым, што по ўсёй Мадзяршчыне камуністы пачалі зьбіраць подпісы супраць прымаса Мадзяршчыны кардынала Міндсэнті, гэты-ж кардынал выдаў пастырскі ліст, у якім між іншым гаворыцца дослоўна: «Я не хачу, каб дзеля мяне цярпеў хоць адзін каталік. Дзеля гэтага ўпаважніваю вернікаў падпісваць розныя пісьмы супраць мае асобы, ведаючы добра, што падпісаныя ня робяць гэтага з добрае волі...»

Гэта толькі пачатак, а чаго можна спадзявацца ў далейшым?

## ПРАСЬЛЕД У РУМЫНІІ.

Ува усіх падсавецкіх краінах адносіны ўлады да рэлігіі нельга інакш назваць, як няпрыхільнымі. Але да некаторых веравызнаньняў гэтая няпрыхільнасьць прыймае форму зацятага змаганьня на жыцьцё і сьмерць. Асабліва варожае становішча занялі камуністы супраць грэка-каталікоў (уніятаў).

У 1945 г. бальшавікі арыштавалі ўсіх украінскіх гр.-кат. біскупаў і некалькі сот сьвятароў, не жадаючых адступіць ад свае веры і пасьля гэтага, сабраўшы ў Львове ў 1946 г. каля сотні запалоханых сьвятароў, абвесьцілі, што яны дабравольна злучаюцца з Расейскаю «Праваслаўнаю» Царквою.

Сёлета зусім падобную гісторыю паўтарылі ў Румыніі, але яшчэ ў больш жарстокай форме. Там сёлета І-га кастрычніка адбыўся «Сабор» у Клюй для ліквідацыі гр.-каталіцкае Царквы. Шчасьцем дайшоў да шырэйшага ведама цэлы сьцяг дакумантаў і фактаў, апублікаваных нядаўна ў газэце «Насіон Румэн« адносна падрыхтоўкі да гэнага «Сабору».

Жудасьцю вее ад гэтае падрыхтоўкі. Спачатку было даручана румынскім праваслаўным сьвятаром і япіскапам заняцца навяртаньнем гр.-каталікоў на праваслаўе. Калі аднак з іх дзейнасьці ня было ніякіх вынікаў, тады за справу ўзялася камуністычная адміністрацыя і паліцыя. Адразу арыштавалі некалькі дзясяткаў сьвятароў і мучылі да таго часу аж пакуль не атрымалі подпісу на адпаведнай дэклярацыі аб адступстве, толькі тады іх выпусьцілі. Іншых проста заклікалі ў валасныя ўправы ці магістраты з такою самаю прапазыякаю. Гэтае самае вымагалі і ад вернікаў.

Больш уплывовых сьвятароў, каб вымусіць ад іх «дабравольны» подпіс, мучылі горш чым за часоў Нэрона. Каноніка Тамайяна і ягоных сяброў а. Барбуля і а. Гілеа, якія катэгарычна адмовіліся падпісваць падсунутыя ім дэклярацыі, пачалі мучыць ад таго, што сьвяцілі моцнымі пражэктарамі ў вочы, потым накладалі электрычныя каскі на галаву, далей прыпякалі на агні рукі; калі гэта не зламала іх волі, далі есьці нейкую страву, пасьля якое трацілася сьведамасьць. Далей канонік Тамайян кажа: «Калі я ачуняў, мне пакаазлі мой подпіс; гэта быў запраўды мой подпіс, але я зусім не памятаю, калі я яго зрабіў і як.

Каб яго запярэчыць, я пасьпяшыў у Клюй, дзе адбываўся «Сабор», але мяне не дапусьцілі ў залю нарадаў. Таму аднак, што ўрад карыстаўся і далей маім імям і тым подпісам, каб увесьці ў блуд вернікаў, я ўважаю сваім абавязкам, указаўшы на абставіны, як той подпіс здабыта, абвесьціць яго ня важным, бо я яго ніколі не хацеў даць».

Хваля прасьледу і зьдзеку не абмінула і біскупскае годнасьці. Біскуп Іван Сучію быў арыштаваны падчас візытацыі. Яго адразу зьвязалі, завязалі вочы і завезьлі ў якісьці халодны склеп, дзе трымалі два дні і дзьве ночы бяз ежы і піцьця, а потым з завязанымі вачыма прывезьлі ў ягоную рэзыдэнцыю — Бляй.

Сёньня ўсе гр.-каталіцкія румынскія біскупы арыштаваны разам з усімі канонікамі і шматлікімі сьвятарамі, якія не збаяліся адмовіць падпісаць розныя дэклярацыі.

Некаторыя з тых, што зразу запуджаныя пападпісвалі дэклярацыі, потым урачыста ад гэтых подпісаў адмовіліся. Праф. Вультур, каб направіць свой грэх падчас найбольшага руху на вуліцах накаленях прышоў ад свайго дому да катэдры, дзе быў зноў прыняты ў лік вернікаў.

Ня ўсе аднак маюць гэткую моцную волю і паддаюцца. Але горшая справа, што ўвесь сьвет глядзіць на гэтае ўсё і ня хоча ўбачыць праўды, ня хоча пачуць енкаў прасьледу, баіцца ўбачыць запраўднае аблічча бязбожнікаў.

# БЕЛАРУСКАЯ ХРОНІКА

## БЕЛАРУСКАЯ ПРЭСА НА ЭМІГРАЦЫІ.

У эміграцыйных умовах беларуская прэса мусіць перамагаць вялічэзныя цяжкасьці, каб магчы існаваць і разьвівацца. Нават выйшаўшы ў сьвет, беларускае друкаванае слова з вялікімі цяжкасьцямі трапляе ў рукі чытача. Таму трэба быць удзячным Беларускай Бібліяграфічнай Службе (ББС), якая, не зважаючы на свае сьціплыя магчымасьці, пільна сочыць і рэгіструе ўсе беларускія выданьні і выданьні ў іншых мовах аб беларусах і Беларусі, ды інфармуе аб гэтым так навуковыя ўстановы, як і шырэйшыя кругі зацікаўленага грамадзянства.

Вось некаторыя статыстычныя даныя апошняга камунікату ББС, аб стане Беларускае прэсы на эміграцыі ў паасобных гадох:

| | Часопісы. | З іх друкам. | Кніжкі. | З іх друкам. |
|---|---|---|---|---|
| 1945 | 2 | 1 | — | — |
| 1946 | 23 | 1 | 34 | 5 |
| 1947 | 30 | 3 | 54 | 10 |
| 1948 | 34 | 4 | 29 | 10 |

Мейсцы выданьня часапісаў паводля краінаў у 1948 г.: Нямеччына — 25, Англія — 4, Францыя — 2, Бэльгія — 1, Канада — 1, З.Ш.А. — 1.

## БАЦЬКАЎШЧЫНА.

### Кароткатэрміновыя курсы.

Між 18-V і 4-VI г.г. адбываліся ў Пінску кароткатэрміновыя душпастырскія курсы для сьвятароў Пінскае епархіі, ня маючых закончанае асьветы. На курсах было 27 слухачоў. Праграма была даволі вялікая, але часу на навуку прызначана ўсяго два тыдні. Яшчэ летась на падобныя курсы давалася месяц часу, а цяпер скарацілі на палову. Відаць і духавенства ад стаханаўшчыны не ўцякло.

## АНГЛІЯ.

### Беларускі Дом у Лёндане.

Амаль паўтара года складалі беларусы ў Англіі, а часткава і ў іншых краінах свае дробныя ахвяры, каб магчы купіць дом у Лёндане.

Дня 29-X г.г. гэтае жаданьне нарэшце ажыцьцявілася — усе фармальнасьці зьвязаныя з купляй дому былі закончаны і ад 2-XI пачалі пераносіцца ў свой дом беларускія арганізацыі ў Лёндане, а так-жа і некаторыя сябры знайшлі там сабе прыстанішча.

Беларускі Дом у Лёндане ёсьць ня толькі вялікім здабыткам, але мае вялікае значэньне для разьвіцьця берарускага жыцьця на эміграцыі. Дакладны адрыс Беларускага Дому:

**52, Penn Road, Holloway, London N. 7.**

### Згуртаваньне Беларускіх Камбатантаў.

Дня 28-XI адбыўся ў Лёндане арганізацыйны Зьезд Згуртаваньня Беларускіх Камбатантаў у Вял. Брытаніі. Працу сваю Зьезд распачаў малітвай. На Зьезьдзе ўдзельнічала 51% сяброў, якія злажылі заявы ўступу. Пасьля рачовае дыскусыі быў прыняты статут, выбрана ўправа і ў канцы намечаны плян працы.

### У акрузе Ёрк — так-жа свой дом.

Група беларусаў у м. Бральфорд на чале з старшынёю Акруговага Адзьдзелу ЗБВБ акругі Ёрк на ўласныя складкі купілі дом, у якім цяпер пражывае 11 сяброў і месьціцца Управа Адзьдзелу ЗБВБ акругі Ёрк.

### Суседзкае сужыцьцё.

Ад 19 да 21 лістапада г.г. Аб'еднаньне сьв. Яна Фішэра ў Кэмбрідж ладзіла Усходня-Эўрапэйскую і Славянскую Конфэрэнцыю. На яе быў

запрошаны так-жа Рэктар Беларускае Рэлігійнае Місыі ў Англіі а. др. Ч. Сіповіч, які меў для вернікаў праз усе дні сьв. Літургію і сказаў адно казаньне аб кульце Багародзіцы ў славян. Ангельцы апрача слоў выявілі сваю падзяку а. Сіповічу, ахвяроўваючы для яго грошы, сабраныя падчас службы, як дар для Беларускае Місыі ў Лёндане. Акрамя ангельцаў у Конфэрэнцыі ўдзельнічалі палякі, сэрбы, украінцы і цэйлонцы. Мілаю неспадзеванкаю для прысутных між іншым было прысланьне багаславенства ад мадзярскага кардынала Язэпа Міндсэнті, каторы як ведама перажывае цяпер цяжкі час для сваe Царквы.

### У братоў украінцаў.

У нядзелю 4-XII украінцы каталікі ў Лёндане перажывалі вялікую ўрачыстасьць пасьвячэньня першае украінскае царквы ў Вялікабрытаніі. Самая царква хаця і невялікая і яшчэ ня зусім выканчаная, быз сумніву аднак будзе важным цэнтрам рэлігійнага жыцьця. Для пасьвячэньня царквы прыехаў Я. Э. Кір Іван Бучко, які якраз у гэтым часе візытуе украінцаў у Зах. Эўропе. На ўрачыстасьці прымалі ўдзел так-жа прадстаўнікі ад беларусаў, ад імені якіх вітаў Я. Э. Бучко і ўсю украінскую грамаду на вялікім банкеце, ладжаным з гэтае нагоды, а. др. Ч. Сіповіч.

## АРГЭНТЫНА.

### Аргэнтынская прэса аб беларусах.

Выступленьне старшыні Згуртаваньня Беларусаў у Аргэнтыне К. Мерляка на мітынгу Славянскае Лігі дня 19-га верасьня ў Буэнос Айрэс знайшло свой водгук у мяйсцовай аргэнтынскай прэсе. Газэта «Трібуна Популяр» Нр. 24 зьмясьціла поўнасьцю прамову К. Мерляка і ягоную фатаграфію.

## БЭЛЬГІЯ.

### Былыя вайскоўцы арганізуюцца.

Дня 2-IX г.г. заснавалася Згуртаваньне Беларускіх Вэтэранаў у Бэльгіі. Старшынёю абраны Б. Рагуля. Новая арганізацыя навязала лучнасьць з падобнымі арганізацыямі ў іншых краёх.

### Магчымасьці студыяў.

Сёлета пры Каталіцкім Унівэрсытэце ў Лювэн дзякуючы стараньням беларускіх дзеячоў і ўстановаў, і дзякуючы прыхільнасьці дабрадзейных каталіцкіх установаў у Бэльгіі паўсталі добрыя магчымасьці для студыяў у тамтэйшым унівэрсытэце для паважнае колькасьці беларускіх студэнтаў. Ёсьць надзея, што хутка беларускія студэнты ў Лювэн будуць мець свой дом.

## З. Ш. А.

### Свой часапіс.

Ад верасьня месяца г.г. пачаў выходзіць ратарным друкам у South River, каля Нью Ёрку, першы беларускі часапіс у З.Ш.А. «Беларус у Амэрыцы». У часапісе зьмяшчаюцца інфармацыйныя артыкулы аб Беларусі так-жа і ў ангельскай мове.

### Прывітальная тэлеграма прэзыдэнту Труману.

З нагоды выбару Гарры Трумана прэзыдэнтам З.Ш.А. радакцыя часапісу «Беларус у Амэрыцы» выслала яму дня 2-XI гратуляцыйны ліст.

## КАНАДА.

### Беларусы арганізуюцца.

На заклік «Беларускага Эмігранта» пачалі паволі зьяжджацца ў Торонто беларусы, так што 28-XI змог там адбыцца першы арганізацыйны сход беларусаў з мэтаю афармленьня арганізацыі, якаяб змагла прыняць у свае рады магчыма большы лік беларусаў параскіданых па вялікім абшары Канады.

## НЯМЕЧЧЫНА.

### Перамяшчэньні ў лягэрах.

Каб унікнуць тых неладоў, укія ад даўжэйшага часу муцілі жыцьцё некалі беларускага лягэру Міхэльсдорф, улады IPO йдучы на спатканьне просьбам беларускіх арганізацыяў, рэарганізавалі лягэры Віндашбэргэрдорф і Міхэльсдорф. Беларуская група з лягэру Міхэльсдорф разам з Беларускай Гімназіяй, Беларускім тэатрам Эстрады, Скаўцкім Штабам Штандару «Бавcovарыя» і ін. пераехала ў Віндзішбэргэрдорф.

### Прызналі беларусаў.

Пасьля доўгіх і ўпартых дамаганьняў нарэшце беларусы ангельскае зоны дачакаліся загаду ангельскіх уладаў аб правядзеньні рэгістрацыі беларусаў, як нацыі. Пры гэтай нагодзе БНК панавіў свае дамаганьні выдзяленьня беларусаў у асобныя лягэры.

## ФРАНЦЫЯ.

### Першы Сусьветны Зьезд Беларускае Эміграцыі.

У днёх між 28-га лістапада і 2-га сьнежня першы раз у гісторыі беларускага народу адбываўся Сусьветны Зьезд Беларускае Эміграцыі ў Парыжу. На Зьезьдзе ўдзельнічалі дэлегаты ад 25 беларускіх эміграцыйных арганізацыяў і ад групаў з усіх тых краінаў, дзе толькі знайходзіліся групы верных незалежніцкай ідэі беларусаў. Асабіста ўдзельнічылі дэлегаты ад беларусаў Францыі, Англіі, Бэльгіі і Нямеччыны, з далейшых краінаў, як. Аргэнтыны, Аўстраліі, Даніі, З.Ш.А., Італіі, Канады і Швэцыі, выбраныя там дэлегаты, прыслалі свае упаўнаважаньні асобам пражываючым бліжэй Парыжу.

Адкрыцьцё Зьезду адбылося ў нядзелю а гадз. 9,30. Пасьля выбару Прэзыдыі, Мандатнае камісыі і прывітальнага слова Прэзыдэнта БНР дэлегаты і госьці перайшлі ў беларускую царкву на Службу Божую. Уканцы Службы Божае а.

Рэктар Беларускае Рэлігійнае Місіі зьвярнуўся да прысутных з прынагадным словам, якое закончыў супольнаю малітваю аб багаславенстве для Зьезду.

Пасьля палудзеннага перапынку пачаліся даклады дэлегатаў аб жыцьці і працы леларускае эміграцыі у паасобных краінах. Даклады кончыліся наступнага дня. Як вынавак з дакладаў была прынята рэзалюцыя, ў якой адначасна зьмяшчаўся плян працы для намечанае цэнтралі беларускае эміграцыі. Трэцяга дня пасьля доўгае і зьмястоўнае дыскусыі быў прыняты статут і выбрана ўправа цэнтральнае арганізацыі, якая прыняла назоў: Сусьветнае Аб'еднаньне Беларускае Эміграцыі (САБЭ).

У склад управы ўвайшлі: Старшыня — інж. Л. Рыдлеўскі, Заступнікі Старшыні — інж. Ул. Шыманец, інж. Ул. Тамашчык, праф. В. Жук-Грышкевіч, Сакратар — Я. Сурвіла. Адначасна выбрана 7 рэфэрэнтаў, Наглядную Раду і Сяброўскі Суд. Наступна прынята пастанову ў справе шкодніцкае акцыі між беларусаў на эміграцыі — супраць «астроўшчыны і зарубежніцтва», а так-жа выдана Зварот да Беларускіх Эмігрантаў з заклікамі гуртавацца для ўзмацненьня вызвольнае барацьбы.

Напасьледак яшчэ было прынята рад важных пастановаў у справе арганізацыі, прэсы, і інфармацыі. Вечарам дня 2-XII Зьезд закончаў сваю працу.

Бясспрэчна гэты першы Усебеларускі Зьезд Эміграцыі мае аграмаднае значэньне для памыснага разьвіцьця беларускага жыцьця на эміграцыі.

### Кангрэс Вольных Журналістаў.

Аб'еднаньне вольных журналістаў, бацькаўшчыны, якіх сёньня знайходзяцца за жалезнаю заслонаю ладзілі ў Парыжу ў днёх 28-29 лістапада Кангрэс з мэтаю ўтварэньня сусьветнае арганізацыі вольных журналістаў з-за жалезнае заслоны.

У Кангрэсе удзельнічалі: прадстаўнікі: Баўгарыі, Беларусі, Латвіі, Летувы, Мадзяршчыны, Польшчы, Румыніі, Славаччыны, Украіны, Чэхіі, Эстоніі й Югаславіі. Як госьці былі прадстаўнікі казакаў.

Беларуская дэлегацыя ў складзе прадстаўнікоў беларускае прэсы з Англіі, Нямеччыны і Францыі на чале з інж. Л. Рыдлеўскім даклаДна паінфармавала Кангрэс аб сучасным стане беларускае прэсы. Варта адцеміць, што беларус выбраны трэцім заступнікам Старшыні новаўтворанай Фэдэрацыі Вольных Журналістаў.

З нагоды Кангрэсу была выпушчана брашура ў французкай мове аб стане прэсы за жалезнаю заслонаю, у якой зьмешчаны паважны артыкул аб беларускай прэсе.

### Брашура аб Беларусі ў францускай мове.

Дзякуючы дапамозе Беларускага Выдавецкага Фонду ў Францыі нядаўна выйшла брашура аб Беларусі інж. Л. Рыдлеўскага з картамі інж. Ул. Шыманца. На 40 старонках друку падана ўсё важнейшае, што можа цікавіць чужынцоў адносна беларускае гісторыі, гэаграфіі, адраджэнскага руху і сучаснага стану беларускае праблемы.

### Служба Божая для французаў.

Рэктар Беларускае Рэлігійнае Місіі ў Францыі дня 3-XII адправіў урачыстую Службу Божую ў капліцы а.а. Лазарыстаў ля гробу сьв. Вінцэся для ягоных духовых сыноў і дачок — сяброў Таварыства сьв. Вінцэся а Паулё ў намераньні гэтага-ж Таварыства. Шматлікія з прысутных скарысталі з нагоды прыняцьця Сьвятпрычасьця паводля ўсходняга абраду.

## ПОШУКІ.

**Калодку** Мацея, які ў 1943 г. быў вывезены ў Нямеччыну, шукае стрэчны брат Турко Іван.

**Малах** Надзю шукае стары знаёмы Гурко Алесь.

**Званіцкага** Сьцяпана нар. у 1924 г. шукае брат Званіцкі Янка.

Пісаць на адрыс радакцыі.

### АХВЯРЫ НА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ».

На прэсавы фонд «Божым шляхам» злажылі звыш падпіскі:

Аніська Д. 1.850 фр.; Барысевіч В. 250; Баяроўскі М. 750; Буткевіч С. 250; Гасьцееў Ю. 700; Курыло Ул. 500; Лабанок М. 250; Марковіч А. 2.400; Пузоўскі 400; Сенкевіч Г. 250; Траскевіч У. 500; Хомчык М. 250; Шастак М. 1.350; Шчарбук Я. 700,

Усім ахвярадаўцам шчырае дзякуй!

**Радакцыя.**

## ЗЬМЕСТ.


| | |
|---|---|
| а. Лазар — Вялікае сьвята | |
| Л. Стаўпецкі — Калядныя ўспаміны | 3 |
| а. др. Ч. Сіповіч — Часы Хрыста і нашы | 4 |
| а Л. Гарошка — Пачаткі хрысьціянства на Беларусі. | 8 |
| А. Жменя — Дробнае зернятка | 11 |
| На рэлігійнай ніве | 12 |
| Беларуская хроніка | 14 |
| Ахвяры | 16 |
| Пошукі | 16 |



Gérant : **D. Kucopej.** Directeur : **Abbé L. Horosco.**

Impr. de Navarre, 11, rue des Cordelières Paris.